МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ “ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

№5 (121)
травень 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### 20 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ КУЛЬТУРНАМУ ТАВАРЫСТВУ “ХАТКА”

23 траўня ў 1992 годзе ў Гданьску (Польшча) адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага культурнага таварыства “Хатка”.

*Працяг на стар. 5*

### ІМПРЭЗА Ў ТБК ЛІТВЫ

28 красавіка ў Таварыстве беларускай культуры ў Літве прайшла традыцыйная імпрэза, на якой узгадалі імёны велічных і слаўных беларусаў, якія ў той ці іншай ступені спрычыніліся да развіцця беларускай культуры, мовы, дзяржаўнасці.

*Працяг на стар. 6*

### РАДА БНР ВЫСТУПІЛА СУПРАЦЬ БУДАЎНІЦТВА АЭС

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі выступіла з заявай супраць будаўніцтва атамнай электрастанцыі на тэрыторыі Беларусі.

*Працяг на стар. 7*

### РЫМСКІ КАРДЫНАЛ АСВЯЦІЎ ЛЕГЕНДАРНЫ БЕЛАРУСКІ “МАРЫЯН-ХАЎЗ” У ЛОНДАНЕ

Беларуская прысутнасць у Вялікабрытаніі стала заўважная пасля II сусветнай вайны. Тады на Туманным Альбіёне апынулася каля 10.000 беларусаў

*Працяг на стар. 7*

НАВІНЫ МГА “ЗБС “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

## Алег Рудакоў: Ад нас пачынаюць аддаляцца

**23 траўня на сядзібу МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” завітаў старшыня Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алег Рудакоў. У сваёй гутарцы ён расказаў пра праблемы, з якімі сутыкнулася ТБК пасля абвінавачвання ў экстрэмізме актывіста моладзевага клуба “Крывічы” Аляксея Кухты. Гэты канфлікт мы асвятлялі ў папярэднім нумары бюлетэня “Беларусы свету”. Як цяпер развіваюцца падзеі?**

**– Спадар Алег, акрэсліце, калі ласка, як вырашаецца канфліктная сітуацыя паміж “Моладзевым клубам “Крывічы” і Следчым камітэтам Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці?**

– На сёння крымінальная справа аб экстрэмізме працягваецца, абвінавачванні не знятыя. Да нас даходзяць звесткі, што следчыя органы размаўляюць з чыноўнікамі, дзяржаўнымі органамі, з грамадскімі арганізацыямі, напрыклад, з саветамі ветэранаў, і распаўсюджваюць сярод іх інфармацыю, якая нас незаслужана абняслаўлівае. Як вынік, многія пачынаюць дыстанцыявацца ад нас, тыя ж саветы ветэранаў, напрыклад, хоць мы і для іх праводзілі розныя мерапрыемствы, дарылі ветэранам памятныя медалі да 60- і 65-годдзя вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Аднак некаторыя саветы ветэранаў (напрыклад, Савет ветэранаў Свярдлоўскай акругі) спагадаюць нам і пішуць лісты ў нашу падтрымку.

Мы адчуваем, што многія арганізацыі цяпер трымаюць адлегласць. 8 траўня Савет ветэранаў Афганістана з моладзевымі арганізацыямі Іркуцка ладзіў шэсце з паходнямі ў гонар заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. Былі запрошаныя многія нацыянальныя суполкі: татарская, літоўская, украінская і іншыя.



*Алег Рудакоў*

Але нас не запрасілі, і калі іх спыталі, то яны проста адказалі, што беларусаў ім на шэсці не трэба.

Яшчэ прыклад. Я павінен быў выступаць на канферэнцыі, дзе абласная адміністрацыя збірае прадстаўнікоў муніцыпальнай улады. У мяне быў падрыхтаваны даклад па ўзаемадзеянні нацыянальна-культурных аб’яднанняў з муніцыпальнымі структурамі. У нас 12 зарэгістраваных аддзяленняў па Іркуцкай вобласці, мы маем станоўчы вопыт па такім узаемадзеянні, і я меў пра што расказаць. Але мяне выкраслілі з дакладчыкаў, таму што, маўляў, кіраўніцтва лічыць мяне “экстрэмістам”.

Але мы, тым не менш, працягваем актыўна працаваць, ёсць арганізацыі, якія не баяцца працягваць з намі кантакт. Вось не так даўно мы бралі ўдзел у святе, прысвечаным Шэкспіру, якое арганізаваў Лінгвістычны ўніверсітэт Іркуцка. Я чытаў творы Шэкспіра ў перакладзе на беларускую мову. 18 траўня мы ўдзельнічалі ў “Ночы музеяў”. Нам далі цэлую гадзіну для прэзентацыі нашай суполкі, выступалі гурты, прайшоў майстар-клас па беларускіх танцах. Заўтра будзе адкрыццё выставы “Беларускае рамяство жыве ў Прыбайкаллі“. То бок дыстанцуюцца не ўсе, але не-

каторыя баяцца чутак. І, несумнеўна, дзеяннямі Следчага камітэту аўтарытэт наш моцна падарваны.

**– Як Вы бачыце развіццё гэтай канфліктнай сітуацыі?**

– Што будзе далей — невядома, і пытанне гэтае хутчэй да Следчага камітэту. Мы, зразумела, напісалі ім ліст. Таксама мы правялі акцыю "Дабравольны сведка": звычайныя людзі, аб'яднанні пісалі лісты ў нашу падтрымку. Мы будзем звяртацца да Следчага камітэту, каб яны выпусцілі новы прэс-рэліз, які б паправіў нашую рэпутацыю. Калі яны адмовяцца публікаваць гэты прэс-рэліз, мы будзем звяртацца ў суд. Мы ўпэўненыя, што невінаватыя ў тым, у чым нас абвінавачваюць.

**– Спадар Алег, як вы можаце пракаментаваць падачу інфармацыі ў СМІ пра гэты канфлікт?**

– 17 красавіка Следчы камітэт выдаў прэс-рэліз, дзе ўскосна абвінавачвае нас у экстрэмізме. І СМІ — не толькі іркуцкія, але і замежныя таксама — падалі гэта як "смажаны факт". Яны выкарыстоўвалі крыклівыя загалоўкі кшталту "Беларуская суполка абвінавачаная ў экстрэмізме", "Кіраўнік беларускай суполкі арыштаваны за экстрэмізм", падаючы інфармацыю ў скажоным выглядзе, з аднабаковай інтэрпрэтацыяй. Былі і больш-менш аб'ектыўныя СМІ, якія прынамсі пыталі і нашае меркаванне, але было і шмат бруду, які выліваўся на нас. Многія людзі, якія раней з павагай ставіліся да нас, маглі засумнявацца ў нашай невінаватасці, маўляў, "няма дыму без агню"… Следчы камітэт спрацаваў як жоўтая прэса, яны папросту ўзарвалі інфармацыйную бомбу.

**– У якой ступені замінае ўся гэтая сітуацыя непасрэднай дзейнасці вашага таварыства?**

– Вельмі замінае. Мы вымушаныя адмаўляцца ад многіх буйных мерапрыемстваў, напрыклад, ад фестывалю "Гучы, гоман беларускі", ад II міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай Сталыпінскай рэформе, ад фэсту беларускай культуры на Байкале, які мусіў прайсці ў жніўні… Бо цяпер цяжка працаваць са спонсарамі, мы ўжо не можам разлічваць на абласны або гарадскі бюджэт. Мы можам рэалізоўваць на ўласнай актыўнасці толькі праекты з малым фінансаваннем, па больш затратных мерапрыемствах мы цяпер абмежаваныя. Калі мы шукаем нейкія сродкі на гэта, нам фактычна не даюць афіцыйных адказаў, толькі нейкія адпіскі.

Таксама ізноў паўстала праблема з арэндай. 14 траўня мы атрымалі ліст з Камітэта муніцыпальнай маёмасці Іркуцка, што дамову на арэнду сядзібы яны могуць працягнуць толькі на той умове, што з чэрвеня мы будзем плаціць за яе па рынкавым кошце. А мы не здолеем, у нас няма такіх сродкаў, таму гэта пагражае стратай памяшкання. Яно займае 80 кв. м., у нас там шмат экспанатаў, там станкі, кросны, у нас там і майстэрня рамесная, і музей, і бібліятэка, і рэдакцыя, і невялікая зала для рэпетыцый. Без памяшкання немагчыма працаваць, і пакуль няясна, што будзе з намі ў чэрвені. Мы напісалі мэру ліст, дзе просім дазволіць нам застацца ў сядзібе. Мы пішам, што згодныя на 6% больш плаціць, чым цяпер, бо рынкавы кошт мы ніяк не пацягнем. Цяпер чакаем адказу. Такім чынам, мы церпім ад усёй гэтай сітуацыі вельмі моцна, але, зноў падкрэслю, мы не лічым сябе тут хоць трохі вінаватымі, мы лічым гэта непаразуменнем, непрафесійнымі дзеяннямі следчых, якія не разабраліся ў сітуацыі.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

**Даведка:**

***Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага*** *было створана Алега Рудаковым у 1996 годзе. Асноўная мэта Таварыства – адраджэнне, захаванне і развіццё духоўных і культурных каштоўнасцяў беларускага народа, распаўсюджванне і падтрымка беларускіх нацыянальных звычаяў, рамёстваў, абрадаў і мовы.*

*Іркуцкая гарадская моладзевая грамадская арганізацыя "Моладзевы клуб "Крывічы" (МК "Крывічы") афіцыйна зарэгістраваная ва Упраўленні Міністэрства юстыцыі Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці 8 верасня 2009 года. Дадзеная арганізацыя займаецца вывучэннем беларускіх святаў, рамёстваў, песень і танцаў.*

*У Іркуцкай вобласці дзейнічае 12 аддзяленняў ІТБК. Акрамя моладзевага клуба "Крывічы", пры ІТБК існуюць 17 творчых фальклорных і танцавальных калектываў. У сядзібе Таварыства створаныя бібліятэка беларускай літаратуры і музей-майстэрня "Беларуская хатка", дзе сабраныя ўнікальныя экспанаты з беларускіх вёсак Прыбайкалля. У музеі іркуцкая моладзь займаецца старажытнымі беларускімі рамёствамі: саломапляценнем, сэнсавай вышыўкай, ткацтвам, паясапляценнем, выцінанкай, рэканструкцыяй нацыянальных беларускіх строяў і інш.*

*ІТБК рэгулярна ладзіць адзначэнне старадаўніх беларускіх святаў, такіх як Гуканне Вясны, Камаедзіца, Купалле, Дзяды, Каляды, праводзіць майстар-класы па навучанні беларускім народным танцам, беларускія гістарычныя вечарыны, этнаграфічныя экспедыцыі па беларускіх вёсках Прыбайкалля і інш. Штогод ладзіцца абласны Фестываль-конкурс "Гучы, гоман беларускі", на які з'язджаюцца калектывы з усяго Прыбайкалля.*

*У 2011 годзе Рэгіянальная грамадская арганізацыя "Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага" заняла першае месца ў конкурсе на лепшы нацыянальна-культурны цэнтр Іркуцка, які праводзіўся адміністрацыяй горада.*

## "КНІГАНОША"




Выйшаў новы нумар літаратурнага бюлетэня "Кніганоша".

Адкрывае нумар гутарка з пісьменнікам Алесем Пашкевічам, які распавядае пра свой раман "Сім победиши".

У рубрыцы "Імпрэзы" вы знойдзеце рэпартажы з уручэння прэміі Гедройца і прэміі "Дэбют". У рубрыцы "Погляд" змешчана рэцэнзія на кнігу Лявона Юрэвіча "Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні".

Як заўсёды, у чарговым нумары "Кніганошы" вы знойдзеце інфармацыю пра шэраг навінак беларускамоўнага друку, сярод іх: "Стрэмка" Сяржука Сыса, "Творы сённага жанру" Веры Бурлак, "ULASLOVY" Уладзіміра Лобача, "Стапеліі" Віктара Жыбуля і інш.

Спампаваць новы нумар бюлетэня "Кніганоша" вы зможаце на нашым сайце zbsb.org.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## КАМУНІКАТ

Ужо 10000 выданняў сабрана ў беларускай сеціўнай бібліятэцы "Камунікат". Калекцыя ўключае класічную і авангардную літаратуру, гістарычныя выданні, што выпускаліся беларусамі на Радзіме або ў эміграцыі, маланакладныя незалежныя выданні.

За апошнія 3 гады бібліятэка ўзбагацілася поўным зборам беларускай эміграцыйнай прэсы пасляваеннага перыяду і беларускіх незалежных газет з пачатку 90-х XX стагоддзя. "Камунікат" рыхтуе шэраг беларускіх электронных кніг, якія неўзабаве можна будзе запампаваць са старонкі kamunikat.org.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# НАВІНЫ КАМПАНІІ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

## Трэці фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK!

Трэці фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK! 21 траўня прэзентаваў новы ролік "Зазубень".

Прэзентацыя прайшла ў сацыяльных сетках, на афіцыйным сайце фестывалю, а таксама на сайтах арганізатараў мерапрыемства.

Фестываль AD.NAK! сёлета праходзіць ужо трэці раз. Рэкламны ролік, прысвечаны фестывалю, выходзіць у байнэце ўжо другі раз запар. Арганізатары фестывалю лічаць, што за два выхады ў рэкламных ролікаў-анонсаў сфармаваўся дакладны, пазнавальны фармат, і гэта плюс у скарбонку "фестывальнасці" AD.NAK.

ТРЭЦІ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ РЭКЛАМЫ І КАМУНІКАЦЫІ. МІНСК, 2012

Нагадваем, што Трэці фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK! распачаў прыём працаў. Ён працягнецца да 11 чэрвеня. Удзел у Фестывалі БЯСПЛАТНЫ. Кульмінацыяй Фестывалю стане Вялікі фестывальны дзень, які пройдзе 5 ліпеня ў Мінску.

Адукацыйная праграма Фестывалю будзе складацца з серыі майстар-класаў беларускіх і замежных прафесіяналаў у галіне рэкламы, а завершыцца дзень цырымоніяй узнагароджання пераможцаў.

## Год мультфільму "Будзьма беларусамі!"

Мультфільм "Будзьма беларусамі атрымаў золата ў намінацыі "Анімацыя", а таксама бронзу ў намінацыі "Рэжысура" на 13-м Кіеўскім міжнародным фестывалі рэкламы. Поспех адбыўся дзякуючы крэатыву Юліі Ляшкевіч, рэжысёрскай працы Юліі Рудзіцкай, саўндтрэку ад Аляксандра Памідорава і Лявона Вольскага і зладжанай працы каманды кампаніі "Будзьма беларусамі!" Атрыманыя ўзнагароды сталі шыкоўным падарункам для стваральнікаў і аматараў фільма на яго першую гадавіну 28 траўня, але яны – не першыя ў скарбонцы творчага калектыву. За год "жыцця" мультфільм зрабіўся сапраўднай візітоўкай Беларусі ў свеце. Анімацыя была ўзнагароджаная на фестывалях One Short Film Fest, AD.NAK!, "Белы Квадрат" і Uzupis International Film Festival, дэманстравалася на міжнародных фестывалях анімацыі KROK, Varna, Balkanima і ANIMEST.



Але і гэта яшчэ не ўсё! Ужо летам распачынаюцца ратацыі мультфільма на тэлеканале Eurochannel, які вяшчае на тэрыторыі Лацінскай Амерыкі, ЗША, Канады, Францыі, Партугаліі Афрыкі і Карэі. "Будзьма беларусамі!" стане часткаю пятага штогадовага Тура кароткіх фільмаў (2012 Short Film Tour), першы эфір адбудзецца 12 ліпеня. Тур кароткіх фільмаў – цэнтральная падзея тэлеканала, якая збірае кароткаметражныя фільмы кантынента, каб прадэманстраваць адзінства еўрапейскай прасторы.

*Паводле Алеся Плоткі*

## ВІНШАВАННІ

### ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў чэрвені: **Валянціна Голубева (Беларусь), Лявона Юрэвіча (ЗША), Яўгена Вапу (Польшча), Валерыя Барташа (Украіна), Дзмітрыя Плакса (Швецыя).** Зычым добрага здароўя, радасці, любові і плёну ў працы!

29 чэрвеня юбілей святкуе сябра Вялікай Рады **Мікалай Маркевіч (Беларусь)**.



Шчыра віншуем шаноўнага юбіляра са святам, зычым добрага настрою, дабрабыту, натхнення і шчасця!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

### ВІНШУЕМ ТАЦЦЯНУ І СЯМЁНА ПЕЧАНКО



Віншуем нашу супрацоўніцу, кіраўніка інфармацыйнага аддзела Таццяну Печанко і яе мужа Сямёна з нараджэннем сына Сямёна, які з'явіўся на свет 14 траўня!

Няхай сынок расце моцным і здаровым, прыносіць радасць і ўсмешкі сваім бацькам!

Шчасця, дабрабыту і ўсяго самага светлага вашай сям'і!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

### 20 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ КУЛЬТУРНАМУ ТАВАРЫСТВУ "ХАТКА"



23 траўня ў 1992 годзе ў Гданьску (Польшча) адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага культурнага таварыства "Хатка", якое аб'ядноўвае беларускую нацыянальную меншасць Памор'я. Таварыства беларускай культуры "Хатка" штогод ладзіць святкаванне ўгодкаў БНР, праводзіць канцэрты, літаратурныя вечары, мастацкія выставы, прэзентацыі кніг, фільмаў. Таварыства дбае пра захаванне нацыянальнай памяці, напрыклад, ініцыюе ўстаноўку памятных знакаў і помнікаў.

Віншуем стваральнікаў і сяброў "Хаткі" з 20-гадовым юбілеем таварыства. Мы цэнім вашую працу і зычым, каб ваш імпэт не згасаў, а праца заўсёды прыносіла вам радасць і была плённай! Няхай вам заўсёды спадарожнічаюць сяброўства, любоў і шчырасць.

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## БЯЛЯЦКІ АТРЫМАЎ УЗНАГАРОДУ ДЗЯРЖДЭПА ЗША

“Гэтая ўзнагарода адзначае асобаў або недзяржаўныя арганізацыі, якія, будучы пастаўленыя ва ўмовы ўрадавых рэпрэсіяў, прадэманстравалі выбітную мужнасць і вядучую ролю ў абароне правоў чалавека і дэмакратыі“, — гаворыцца ў прэсавым рэлізе амерыканскага ведамства па замежнай палітыцы.



“Алесь Бяляцкі адважна выступаў адвакатам ахвяраў палітычных рэпрэсій і іх сем'яў, нягледзячы на цкаванне з боку ўраду Беларусі. У якасці заснавальніка “Вясны“, адной з вядучых праваабарончых арганізацый Беларусі, Бяляцкі забяспечваў ахвяраў пераследу юрыдычнай і практычнай дапамогай і выконваў ролю ключавой крыніцы інфармацыі адносна парушэнняў правоў чалавека. Ён з'яўляецца палітвязнем і адбывае турэмнае зняволенне тэрмінам чатыры з паловай гады за сваю праваабарончую дзейнасць“, — нагадвае Дзярждэп.

Сёлетнюю ўзнагароду Бяляцкі падзяліў з угандыйскай Кааліцыяй грамадзянскай супольнасці ў пытанні правоў чалавека і канстытуцыйнага закону. Гэтая арганізацыя была адзначаная за эфектыўную абарону правоў сэксуальных меншасцяў. У заяве адзначаецца, што дзейнасць актывістаў Кааліцыі нярэдка звязана для іх са значнай асабістай небяспекай.

*”Радыё Свабода”*

## У МІНСКУ АДБЫЎСЯ “ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ”

Удзельнікі Чарнобыльскага шляху запатрабавалі спыніць “ядзерны генацыд беларускага народа“. 26 красавіка ў Мінску прайшла традыцыйная жалобная акцыя, прымеркаваная да гадавіны чарнобыльскай катастрофы.

Ад будынка прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прыблізна тысяча ўдзельнікаў акцыі прайшлі калонай па тратуарах праспекта Незалежнасці і вуліцы Сурганава. Сёлета “Чарнобыльскі шлях“ праходзіў пад знакам адмены будаўніцтва астравецкай АЭС. Адзін з арганізатараў мерапрыемства, старшыня партыі БНФ Аляксей Янукевіч называе акцыю ўдалай, нягледзячы на нешматлікасць.

– Мы жывем у такія часы, калі нехта баіцца, нехта не верыць, што праз выяўленне сваёй грамадзянскай пазіцыі можна нешта памяняць. І тут адзінае, што нам належыць рабіць, — гэта працягваць заклікаць людзей выяўляць сваю грамадзянскую пазіцыю, выказваць свае патрабаванні.

На заканчэнне Чарнобыльскага шляху ў парку Дружбы Народаў побач з плошчай Бангалор адбыўся мітынг, які завяршыўся прыняццем адмысловай рэзалюцыі. Сярод патрабаванняў у ёй: аднавіць дзеянне закона “Аб сацыяльнай абароне пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС“, спыніць выкарыстанне забруджаных зямель, адмяніць усе рашэнні аб будаўніцтве астравецкай АЭС, вызваліць палітычных вязняў і аднавіць іх у грамадзянскіх правах.

Пасля мітынгу частка людзей накіраваліся да Чарнобыльскай капліцы каля царквы ў гонар іконы Божай Маці ”Спагнанне загінулых”, дзе ўсклалі кветкі.

Пасля акцыі затрымалі каля 40 чалавек, на якіх былі складзеныя пратаколы.

*Паводле ”Радыё Рацыя”*

## ВЫЙШАЎ ЭЛЕКТРОННЫ ЗБОРНІК НЕВЯДОМАЙ ПРОЗЫ БЫКАВА

У электронным выдавецтве “Пяршак” часопіса 34mag.net выйшаў зборнік Васіля Быкава “Пасляжыццё”.

Дапамаглі з выданнем кнігі ўдава аўтара Ірына Міхайлаўна Быкава, Саюз беларускіх пісьменнікаў і часопіс “Дзеяслоў», якім 34mag выказаў падзяку. У кнігу ўвайшлі аповесці і апавяданні, якія ніколі не друкаваліся пры жыцці аўтара.

Пад адной вокладкай сабраныя пяць твораў, напісаныя ў розныя часы. Аповесць “Атака” і апавяданне “Жалезны камандзір” не так даўно былі знойдзеныя ў гарадзенскім архіве аўтара і адносяцца да 1960-х гадоў.

Аповесць “Афганец” і апавяданне “Бутэльчына” створаны ўжо ў незалежнай Беларусі, і гаворка ў іх таксама ідзе пра сучаснасць. Акрамя таго, у зборнік увайшла незавершаная аповесць “Бліндаж”, распачатая ў 1987 годзе. Усе тэксты выходзяць у аўтарскай рэдакцыі.

“Гэтай кніжкай мы хочам падкрэсліць, што лічым Быкава аўтарам, чытанне якога жыццёва неабходнае для разумення простых чалавечых каштоўнасцяў”, — падкрэсліваюць прадстаўнікі мультылэйбла “Пяршак”.

У афармленні кнігі “Пасляжыццё” выкарыстаная коміксавая стылістыка. Выдаўцы тлумачаць, што дызайн выдання — гэта іх рэфлексія над тэкстам. “Кожная ілюстрацыя — своеасаблівы ключ да таго ці іншага твора і зборніка ў цэлым”. Аўтар ілюстрацый — маладая мастачка Ганна Крук.

Гэта ўжо трэцяя кніга, выдадзеная мультылэйблам “Пяршак”. Да гэтага былі прэзентаваныя раман Віктара Марціновіча “Сцюдзёны вырай” і зборнік апавяданняў “Радзіма” Уладзіміра Казлова.

*Паводле 34mag.net*

## У БЕЛАРУСІ З’ЯВІЎСЯ НОВЫ ГОРАД

З 28 красавіка Астравец афіцыйна лічыцца горадам. Пра гэта паведаміў старшыня Астравецкага раённага Савета дэпутатаў Валерый Барташэвіч. ”28 красавіка 2012 года гарадскі пасёлак Астравец аднесены да горада раённага падпарадкавання. Рашэнне Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў, прынятае 4 красавіка бягучага года, уступіла ў сілу 2012/04/28 г., паколькі яно апублікавана ў газеце ”Гродзенская праўда”, якая з'яўляецца афіцыйнай крыніцай апублікавання прынятых рашэнняў”, — распавёў ён.

*Паводле kraj.by*

## КАЛЕГІ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА ВЫДАЛІ КНІГУ “НАША ВЯСНА”




Выхад гэтай кнігі планаваўся яшчэ год таму — да 15-годдзя стварэння праваабарончага цэнтра ”Вясна”, які ўзначальваў Алесь Бяляцкі.

Нагадаем, што ”Вясна” была ліквідаваная беларускімі чыноўнікамі яшчэ ў 2003, але дзейнасць праваабаронцаў тады не спынілася. Цяпер гэта ўсё зафіксавана на паперы. Кнігу склалі 18 інтэрв’ю з вясноўцамі з Мінска і рэгіёнаў.

”Нашу Вясну” пачалі рыхтаваць пасля судоў над ”дзекабрыстамі”. І ў чэрвені-ліпені 2011 г. інтэрв'ю былі гатовыя. Зашкодзіў своечасоваму выданню кнігі арышт Алеся Бяляцкага, які адбыўся 4 жніўня.

У кнізе шмат фотаздымкаў з акцый беларускіх праваабаронцаў, іх кантактаў з замежнымі калегамі.

Прачытаць кнігу можна на сайце spring96.org.

**Наша Вясна. Гісторыя ў асобах / Ірына Пракопчык, Таццяна Снітко, Сяргей Сыс. — Вільня: Gudas, 2012. — 216 с.**

*Паводле ”Нашай Нівы”*

## АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ Ў ПРАЗЕ

Беларуская Асацыяцыя за мадэрнізацыю ў пачатку траўня правяла ў Чэхіі акцыю салідарнасці з беларускімі палітычнымі вязнямі.

На акцыю ў Празе сабралася блізу трох дзясяткаў чалавек, якія раздавалі мінакам падпісаныя паштоўкі з адрасамі беларускіх турмаў, дзе ўтрымліваюцца палітзняволеныя. Прыкладам, для вязня, экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча было раздадзена больш за паўсотні паштовак.

На акцыі прысутнічалі прадстаўнікі чэшскіх СМІ. Асабіста прысутнічаў і сказаў словы падтрымкі беларускім дэмакратам Багдан Данілішын — былы міністр эканомікі Украіны. Разам з ім салідарнасць беларусам выказалі актывісты ўкраінскай арганізацыі "Перспектыва".

Акцыя выклікала цікавасць з боку жыхароў Прагі і шматлікіх турыстаў. Яны добраахвотна прапаноўвалі ўзяць плакаты і беларускія нацыянальныя сцягі, каб сфатаграфавацца разам з беларускімі актывістамі.

*"Радыё Свабода"*

## БЕЛАРУСЫ ЎЗЯЛІ ЎДЗЕЛ У ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў ПЕЦЯРБУРГУ

1 мая беларусы Пецярбурга ўдзельнічалі ў першамайскай дэманстрацыі на Неўскім праспекце. З бел-чырвона-белымі сцягамі яны прайшлі па цэнтральнай вуліцы Паўночнай сталіцы Расіі ў калоне свабодных прафсаюзаў.

Шэсце скончылася мітынгам, на якім аратары гаварылі аб тым, як групоўка алігархаў-злодзеяў, што захапіла ўладу, абдзірае да ніткі працоўны народ, сярод якога апошнім часам шмат беларусаў-гастарбайтараў, якія сотнямі ўцякаюць ад правальнай эканамічнай палітыкі Лукашэнкі ў пошуках годных заробкаў.

*Ігар Станкевіч*

## 500-ГОДДЗЕ ПЕРАМОЖНАЙ БІТВЫ ПАД ВІШНЯЎЦОМ

27–28 красавіка ў Тэрнопальскай вобласці мясцовымі ўладамі і Беларускім Цэнтрам ва Украіне ладзіліся мерапрыемствы з нагоды 500-годдзя пераможнай бітвы пад Вішняўцом.

У мерапрыемствах брала ўдзел беларуская дэлегацыя ў складзе 15 чалавек, аснову якой склалі сябры Руху Салідарнасці "Разам".

Таксама прысутнічаў прадстаўнік ад Літвы.

*Паводле berserk5.livejournal.com*

## БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ ЛУНАЎ НАД БУГАМ



"Беларуская Нацыянальная Памяць" правяла водную экспедыцыю па Беласточчыне. Маторная лодка пад бел-чырвона-белым сцягам прайшла некалькі дзясяткаў кіламетраў па рацэ Буг. Мэтай экспедыцыі была падрыхтоўка да ўсталявання памятнага крыжа ў гонар ваяроў Вялікага Княства Літоўскага. Памятны крыж паўстане на месцы бою аддзела Якуба Ясінскага з войскамі Суворава ў 1794 годзе.

Як адзначыў кіраўнік "Беларускай Нацыянальнай Памяці" Анатоль Міхнавец, беларуская Беласточчына мае багатую гісторыю, і, на жаль, яна малавядомая.

Міхнавец: "Мэтай БНП з'яўляецца даследаванне беларускай гісторыі, культуры і традыцыі. Веды даюць сілы і паказваюць шляхі. Нам ёсць чым ганарыцца і пра гэта кажа наша гісторыя, трэба толькі ёй цікавіцца".

Адзначым, што "Беларуская Нацыянальная Памяць" не першы раз спалучае гісторыю і спорт. На працягу апошніх пяці гадоў адбываліся лыжныя рэйды, роварныя прабегі і экспедыцыі на самаходах.

*collaboration.org.ua*

## 5 ГАДОЎ АРГАНІЗАЦЫІ "БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАМЯЦЬ"

Цягам пяці гадоў актывісты арганізацыі наладзілі безліч мерапрыемстваў — перадусім пошук і ўшанаванне месцаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю беларусаў, якія былі вымушаныя заставацца ў выгнанні, дзе і паміралі.

"Ідэя ў тым, што нават жывучы за мяжой мы павінны нешта рабіць для Беларусі. Вядома, немагчыма пабудаваць Беларусь у Польшчы, але тут ёсць шмат нашых людзей, якія вымушаныя былі з'ехаць. Засталіся магілы, шмат недаследаванай інфармацыі, якая мусіць трапіць да беларускага народа", — кажа лідар "Беларускай нацыянальнай памяці" Анатоль Міхнавец.

Сябры арганізацыі шукаюць магілы, помнікі вядомых беларусаў па ўсёй Еўропе і дадаюць іх да адмысловай віртуальнай мапы, каб кожны ахвочы мог гэтыя месцы знайсці.

"Адна з нашых вялікіх знаходак — помнік слуцкім паўстанцам у Баварыі, пастаўлены ў 1948 годзе. Вось прыклад, як трэба шанаваць сваіх герояў. Уявіце — 1948 год, толькі вайна скончылася, невядома, што будзе заўтра. А беларусы, якія там апынуліся, збіраюць грошы, будуюць помнік слуцкім паўстанцам, якія змагаліся за Беларусь!"

Што да планаў на будучыню, дык яны звязаныя з пераносам дзейнасці арганізацыі ў Беларусь.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## ВА УКРАІНЕ ЎШАНАВАЛІ АХВЯРАЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ

Жыхары Славуціча (Украіна), які месціцца за 50 км ад ЧАЭС, сабраліся на галоўнай плошчы горада ў ноч з 25 на 26 красавіка, каб ушанаваць памяць загінулых ліквідатараў аварыі на ЧАЭС. Людзі з запаленымі знічкамі ды лампадамі ўзялі ўдзел у набажэнстве, перад помнікам загінулым стаяла ганаровая варта. "Людзі, якіх мы сёння ўзгадваем, сваім жыццём заплацілі за памылкі кіраўніцтва. Я хацеў бы, каб гэтага больш ніколі не паўтарылася", — гаворыць Уладзімір Шчарбіна, працаўнік Чарнобыльскай АЭС, які браў удзел у акцыі памяці.

*Паводле belsat.eu*

## УШАНАВАННЕ ГЕРОЯЎ У ХАЛОДНЫМ ЯРЫ

30 красавіка ў Халодным Яры (Украіна) аддалі даніну памяці паўстанцам, якія ў 1918-20 гг. змагаліся супраць бальшавіцкай улады.

Упершыню ў мерапрыемствах удзельнічала беларуская дэлегацыя. На мітынгу выступаў Старшыня Руху Салідарнасці "Разам" і Беларускага Цэнтра ва Украіне В. Сіўчык.

*Паводле В. Сіўчыка*

# ІМПРЭЗА Ў ТБК ЛІТВЫ

28 красавіка ў Таварыстве беларускай культуры ў Літве прайшла традыцыйная імпрэза, на якой узгадалі імёны велічных і слаўных беларусаў, якія ў той ці іншай ступені спрычыніліся да развіцця беларускай культуры, мовы, дзяржаўнасці.

Старшыня ТБК сп. Хведар Нюнька распавёў прысутным пра святой памяці Лявона Луцкевіча, аднаго з самых вядомых беларусаў-віленчукоў другой паловы XX ст. Лявон Луцкевіч быў адным з тых, хто стаяў ля вытокаў беларускага адраджэння ў незалежнай Літве. У сакавіку яму споўнілася б 90.



*Хведар Нюнька*

Менавіта Луцкевіч разам з Зоськай Верас быў адным з тых, хто выказваў думку аб стварэнні такой арганізацыі як Таварыства беларускай культуры ў Літве.

Артур Юдыцкі ў сваім выступе згадаў асобу другога прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі Васіля Захаркі. У красавіку спаўняецца 135 гадоў з дня яго нараджэння.

Сёння адназначна можна сказаць: каб не самаахвярная дзейнасць дзеячоў БНР, мы наўрад ці жылі б у незалежнай Беларусі.

А. Юдыцкі акцэнтаваў увагу на тым, што сёння ўрад БНР не прадстаўляе ў поўнай меры беларусаў. Аб урадзе БНР узгадваюць у сваёй большасці толькі ў сакавіку, перад самым вялікім беларускім нацыянальным святам. Нават сайт БНР не ўтрымлівае ў сабе ніякай інфармацыі, няма біяграфічных даведак пра прэзідэнтаў БНР. Таму хацелася б больш актыўнай пазіцыі гэтага ўрада. Тым больш, што ён мае гістарычныя правы выступаць ад імя беларускага народа і рэпрэзентаваць яго ў сусветнай супольнасці.

У красавіку спаўняецца 75 гадоў з дня трагічнай смерці Змітра Жылуновіча (беларускага пісьменніка Цішкі Гартнага), які стаяў ля вытокаў БССР. Сёння складана ацэньваць яго ўклад у станаўленне незалежнай Беларусі, а таксама разважаць над пытаннямі, чаму ён не падтрымаў БНР, але можна сказаць, што так ці інакш ён зрабіў пэўны ўнёсак у развіццё беларускай культуры, літаратуры, мовы. Магчыма, каб не такія дзеячы, то БССР была б зрусіфікаваная значна раней. Але праз іх дзейнасць беларускае слова даходзіла да беларусаў у той жахлівы і крываважэрны час.

"Народ, які мае такія імёны, як Леў Сапега, заслугоўвае павагі", — так распачаў свой выступ пра канцлера ВКЛ Льва Сапегу сп. Хведар Нюнька. У красавіку спаўняецца 455 гадоў з дня нараджэння дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага. Галоўная заслуга Льва Сапегі — выданне Трэцяга Статута ВКЛ, які быў напісаны на старабеларускай мове, як і многія іншыя дакументы эпохі ВКЛ.

Валеры Радзюкевіч узгадаў пра жыццёвы і творчы шлях Альфрэда Ромера, мастака, скульптара, збіральніка фальклору, удзельніка паўстання 1863–64 гг. Нягледзячы на вядомасць гэтага імя ў Польшчы і Літве, у Беларусі аб ім ведаюць мала, і практычна нічога не захавалася там з яго працаў.

Толькі ў камайскім касцёле вісіць намаляваны ім абраз "Езус і сірата", а ў пінскім касцёле — "Пінская мадонна". Пэўную частку свайго жыцця Альфрэд Ромер правёў у маёнтку Каралінава Пастаўскага раёна, які цяпер знаходзіцца ў аварыйным стане і разбураецца, нягледзячы на тое, што на ім прымацаваная шыльда "Ахоўваецца дзяржавай". Сам Альфрэд Ромер пахаваны ў сямейнай капліцы ў Тракайскім касцёле.

Андрусь Старавойтаў у сваім выступе згадаў аб трагічнай падзеі — аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Андрусь акцэнтаваў увагу на тым, што пра аварыю насельніцтву паведамілі толькі праз 10 дзён пасля яе, калі ўжо самі людзі пачалі разумець, што адбылося штосьці страшнае. Па словах А. Старавойтава, дзяржава не толькі хавала праўду аб аварыі, але і не асабліва клапацілася пра тое, каб радыяцыя не распаўсюджвалася на большыя тэрыторыі. Як прыклад ён прывёў спальванне забруджанага радыяцыяй лесу. Вядома, што з дымам радыяцыя распаўсюджвалася на значна большыя тэрыторыі.



*Андрусь Старавойтаў*

І вядома, што праблема забруджаных радыяцыяй тэрыторый — гэта праблема не аднаго тысячагоддзя.

Зразумела, што шкода нанесена непапраўная. І не толькі таму, што людзі былі вымушаныя пакінуць тэрыторыі, а яшчэ таму, што людзі засталіся адарванымі ад сваіх каранёў, ад тых мясцінаў, дзе жылі іх дзяды і дзе была іх гісторыя. Такім чынам былі знішчаныя цэлыя гістарычныя, этнаграфічныя, моўныя рэгіёны на поўдні Беларусі.

*Паводле Алеся Адамковіча*

# БЕЛАРУСКАЯ ВЯСНА Ў ВІЛЬНІ

Рок-гурт "Сцяна", а таксама хіп-хоп выканаўца Vinsent разам з гуртом выступілі на канцэрце "Салідарнасць з Беларуссю" ў Вільні. Гэты канцэрт — частка імпрэзаў вялікага культурна-інфармацыйнага праекту "Беларуская вясна ў Вільні", які пачаўся з сакавіка, калі з нагоды Дня Волі ў Вільні прайшоў "Беларускі тыдзень". "Мы падумалі, што калі ўжо здолелі тыдзень зладзіць, арганізуем і цэлую беларускую вясну", — распавёў адзін з арганізатараў Кірыл Атаманчык. Мэта праекту — знаёмства віленцаў з Беларуссю, як з яе дасягненнямі, так і з праблемамі.

Канцэрт салідарнасці не мае палітычнай афарбоўкі, мы намагаліся зрабіць яго больш кантэкстуальным, падкрэсліў Кірыл Атаманчык.

У гэты ж дзень, 19 траўня, у Вільні праходзіць Дзень вулічнай музыкі, у якім сёлета ўпершыню бяруць удзел шмат беларусаў. У Вільні выступілі каля 1000 музыкаў, у іх ліку — некалькі дзясяткаў з Беларусі. Паводле арганізатараў, было 17 заявак ад беларускіх гуртоў.

У межах "Беларускай вясны" плануюцца яшчэ імпрэзы, якія захопяць і летнія месяцы.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## У ГУЛАГУ ПАЎСТАЛІ КРЫЖЫ БЕЛАРУСКІМ МУЧАНІКАМ

Тайшэт — гарадок у Сібіры, пачатак славутага праекту “БАМ“, пачатак пакутаў сотняў тысяч нявінных людзей. Абапал славутай магістралі ішлі так званыя лагпункты, цаглінкі вялікага ГУЛАГу. Там апынуліся многія людзі, у тым ліку святары, з нашай зямлі. Некаторым з іх удалося вярнуцца на Радзіму. Але многія не выйшлі з лагераў. Пасля 1990-х сюды ў пошуках сваіх блізкіх і землякоў накіраваліся людзі з усяго свету і на былых лагерных могілках пачалі ўзнікаць помнікі і крыжы з надпісамі на розных мовах.

Возерлаг № 038, 2-гі лагерны шпіталь, лагпункт Новачунка, 116-ы кіламетр тайшэцкай чыгункі. Там 11 лютага 1952 г. памірае айцец Андрэй Цікота. Першы беларускі марыянін, заснавальнік друйскага кляштара і друйскай гімназіі, доктар багаслоўя, генерал ордэна, кіраўнік каталіцкай місіі ўсходняга абраду і дырэктар ліцэя ў Харбіне, чалавек высокага інтэлекту і шчыры беларус, атрымае ў гэты дзень сумны пахавальны нумар паводле рэгістрацыі пахавання, і ён будзе накрэслены на кавалку дошчачкі, што павісне на калку, убітым у ягоную магілу.

Возерлаг, цэнтральная больніца, чыгуначная станцыя Тапарок, 50 кіламетраў ад Тайшэта. Там, на лагерных могілках, 10 снежня 1949 г. знойдзе спачын вядомы святар і беларускі грамадскі дзеяч, душпастыр беларускай інтэлігенцыі часоў адраджэння, пісьменнік і перакладчык, вядомы педагог кс. Адам Станкевіч.

22 і 23 траўня на месцах іх пахавання ўзнесліся крыжы і прагучала малітва. Праз шэсцьдзесят гадоў тут зноў маліліся за Беларусь. І гэтыя два крыжы — знак цярпенняў у ГУЛАГУ не толькі гэтых святароў, але і ўсіх нашых землякоў, усіх забытых і невядомых, знак надзеі на ўваскрасенне не толькі нявінна закатаваных, але памяці і годнасці ўсяго нашага народа.

Важна, што гэта адбылося. Важна, што ўпалі кроплі асвячонай вады на гэтыя месцы. І добра, што ў нашы дні менавіта з тых таёжных лясоў узнесліся словы: “Зрабі магутнай, зрабі шчаслівай краіну нашу і наш народ…“

*Паводле catholic.by*

## РАДА БНР ВЫСТУПІЛА СУПРАЦЬ БУДАЎНІЦТВА АЭС

“Гэта ўжо ня першая спроба пабудаваць АЭС на беларускай зямлі, — адзначаецца ў заяве Рады БНР. — У 1988 годзе Масква, са згоды тагачаснага камуністычнага кіраўніцтва, плянавала разьмясьціць атамную станцыю пад Віцебскам. Але тады актывісты толькі што ўтворанага БНФ арганізавалі акцыі пратэсту, дзясяткі тысяч віцяблян падпісаліся супраць будаўніцтва, і разьмяшчэньне АЭС удалося прадухіліць”.

Рада БНР нагадала: “мэтазгоднасьць разьвіцьця атамнай энэргетыкі дзесяцігодзьдзямі зьяўляецца прадметам дыскусіяў на Захадзе. Да гэтага часу ў сьвеце ня вырашаная праблема ўтылізацыі ядзерных адкідаў, спрэчным застаецца ўплыў АЭС на навакольнае асяродзьдзе, аварыі на атамных станцыях здараюцца кожны год. Няма гарантыяў, што такая аварыя не набудзе маштабу чарнобыльскай.

Цяперашняе кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, безумоўна, мусіла ўзяць пад увагу гэтыя і іншыя нэгатыўныя аспэкты будаўніцтва АЭС, аднак яно прыняла рашэньне без шырокага грамадзкага абмеркаваньня і, як высьветлілася, без парадаў з неангажаванымі МАГАТЭ адмыслоўцамі”.

У заяве адзначаецца, што “апошняя інфармацыя, якую ўдалося здабыць грамадзтву, сьведчыць, што будаўніцтва АЭС будзе даручана расейскім кампаніям; пры гэтым Беларусь можа зрабіцца закладнікам экспэрымэнтаў маскоўскіх атамшчыкаў.

Паказальна, што на праведзеных уладамі так званых абмеркаваньнях будаўніцтва АЭС праціўнікі будаўніцтва звычайна не маглі атрымаць слова; пікеты і масавыя акцыі актывістаў экалягічнага руху забараняліся, іх удзельнікі затрымліваліся”.

Рада БНР перакананая, што “свабоднае і адкрытае абмеркаваньне усіх аспэктаў будаўніцтва АЭС можа адбыцца толькі ў свабодным грамадзтве і пры ўладзе, якая выбіраецца народам і залежыць ад народа”.

У сваёй заяве Рада БНР пратэстуе супраць планаў будаўніцтва АЭС на тэрыторыі Беларусі і выказвае падтрымку грамадзянскай супольнасці, якая імкнецца супрацьстаяць гэтаму праекту.

*radyjo.net*
*(правапіс арыгіналу)*

## РЫМСКІ КАРДЫНАЛ АСВЯЦІЎ ЛЕГЕНДАРНЫ БЕЛАРУСКІ “МАРЫЯН-ХАЎЗ” У ЛОНДАНЕ

Беларуская прысутнасць у Вялікабрытаніі стала заўважная пасля II сусветнай вайны. Тады на Туманным Альбіёне апынулася каля 10.000 беларусаў (у асноўным — жаўнеры Арміі Андэрса з сем’ямі). З 1946 г. вядзе ўласную гісторыю Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1948 г. рэктар Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду айцец Часлаў Сіповіч заснаваў у Лондане Беларускі рэлігійна-культурны цэнтр. Яго сядзіба і размясцілася ў “Марыян-Хаўзе” ў раёне Паўночны Фінчлі.

У будынку канца XIX ст. жылі святары-марыяне, ладзіліся беларускія імпрэзы, месцілася капліца і святарскі кнігазбор — аснова будучай Беларускай бібліятэкі-музея імя Ф. Скарыны. У наступныя паўстагоддзя “Марыян-Хаўз” стаў цэнтрам беларускага жыцця на Брытанскіх выспах. У 2009 г. пачаліся работы па рэканструкцыі састарэлага будынка. Каб прафінансаваць рамонт, Беларускай каталіцкай місіі давялося прадаць частку прылеглай да дома зямлі.



*Фота: Кастусь Лашкевіч*

Сёлета, пасля больш чым двухгадовага перапынку, у “Марыян-Хаўз” вярнулася грамадскае жыццё, а ў размешчаную ў ім капліцу Св. Апосталаў Пятра і Паўла — штодзённыя набажэнствы.

На цырымонію адкрыцця аднаўленай сядзібы Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра з Рыма завітаў прэфект Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў (ёй падпарадкоўваецца Беларуская каталіцкая місія ў Англіі) кардынал Леанарда Сандры. Сярод гасцей былі таксама апостальскі нунцый у Вялікабрытаніі Антоніа Меніні, экзарх для ўкраінскіх грэка-каталікаў у Вялікабрытаніі Глеб Ланчына, апостальскі візітатар для беларускіх грэка-каталікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек і інш.

Асвяціўшы абноўлены будынак, кардынал Сандры звярнуўся да прысутных з адмысловай прамовай. Рымскі госць прадэманстраваў глыбокае веданне гісторыі беларускага рэлігійнага жыцця, адзначыўшы надзвычайную ролю ў яго захаванні і развіцці рэктара Беларускай каталіцкай (уніяцкай) місіі ў Англіі айца Аляксандра Надсана.

Патрыярх беларускай грамады ў Брытаніі асобна спыніўся на асобе свайго настаўніка біскупа Сіповіча, дзякуючы высілкам якога беларусы здолелі стварыць трывалы грунт нацыянальнага і рэлігійнага жыцця на Туманным Альбіёне.

Сярод далейшых планаў Місіі будаўніцтва побач з “Марыян-Хаўзам” асобнай капліцы.

*Паводле tut.by*

# ГАННА ПАЗЬНЯК (1922-2012)

Не стала маці Зянона Пазьняка. У некралогу, падпісаным Кансерватыўна-хрысціянскай партыяй БНФ, гаворыцца: "Пасля цяжкой і працяглай хваробы памерла Ганна Яўхімаўна Пазьняк. Усяго некалькі дзён яна не дажыла да свайго 90-годдзя.

Доўгае жыццё Ганны Яўхімаўны было часткай жыцця нашага народу, з якім яна прайшла праз дзесяцігоддзі народнай драмы XX і XXI стагоддзяў. Да апошняга дня зямнога існавання яна захавала вернасць роднай мове, любоў да беларускай зямлі і нашай культуры.

У людзей яе пакалення было мала радасцяў, так склаўся наш народны лёс. Таму Ганна Яўхімаўна, як і многія іншыя беларускія жанчыны яе пакалення, высока цаніла і руплiва зберагала тое светлае і святое, што з'яўляецца каштоўнасцямі нашага народу. Вайна забрала ў яе мужа і брата, якія загінулі ў змаганні з фашыстоўскімі варварамі. Нацярпелася яна і за часы маскоўскай акупацыі Беларусі. Са спадзяваннем яна сустрэла аднаўленне Незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе, з верай у лепшую беларускую долю.

У змаганні за канчатковае вызваленне нашай Радзімы нам будзе не хапаць мудрых мацерак, такіх, якой была Ганна Яўхімаўна. Божа, прымі яе ў сваім Валадарстве".



*"Маці, 1959 год". Здымак з кнігі Зянона Пазьняка "Глёрыя Патрыя"*

Выказваем нашыя шчырыя спачуванні Зянону Станіслававічу Пазьняку, сям'і і блізкім Ганны Яўхімаўны.

*"Радыё Свабода"*

***

**Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Ганны Пазьняк і ўсім, хто яе ведаў, з нагоды цяжкай страты. Няхай яе душа знойдзе спакой.**

# У ВАРШАВЕ АДБЫЎСЯ ВЕЛАПРАБЕГ ПАМЯЦІ БУЛАК-БАЛАХОВІЧА

Удзельнікі акцыі з прымацаванымі да ровараў бел-чырвона-белымі сцягамі праехалі ад цэнтра Варшавы да вуліцы Парыжскай, дзе 10 траўня 1940 года загінуў Булак-Балаховіч. Мяркуецца, што забіты ён быў агентамі гестапа. Там ля мемарыяльнай шыльды ў гонар генерала ўдзельнікі акцыі паставілі белыя і чырвоныя знічы.

Потым праз увесь горад калона накіравалася на могілкі "Павонзкі", дзе знаходзіцца сімвалічная магіла Булак-Балаховіча, бо ягонага цела так і не знайшлі. Каля яе ўдзельнікі акцыі таксама запалілі знічы і ўсклалі кветкі.

Ініцыятарам мерапрыемства выступіла "Беларуская Нацыянальная Памяць". Арганізацыя ўжо трэці год запар арганізуе роварны рэйд памяці па варшаўскіх месцах, звязаных з імем легендарнага палкаводца.

Нагадаем, што Булак-Балаховіч у Першую сусветную вайну камандаваў дыверсійным аддзелам царскага войска. Пасля службы у Чырвонай Арміі, сышоў з яе і ваяваў супраць бальшавікоў у Эстоніі. Пазней перайшоў пад камандаванне Урада БНР.

У лістападзе 1920 года Булак-Балаховіч абвясціў у Мазыры "незалежную беларускую дзяржаву", але неўзабаве яго армія была разбітая Чырвонай Арміяй і адышла ў Польшчу.

*"Еўрарадыё"*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЧЭРВЕНЬ 2012 ГОДА

4 чэрвеня — 140 гадоў таму, у 1872-м, памёр Станіслаў Манюшка, кампазітар, дырыжор, педагог, класік польскай і беларускай оперы, вакальнай лірыкі.

4 чэрвеня — 60 гадоў таму, у 1952-м, у Чыкага памёр Язэп Варонка, палітычны дзеяч, журналіст, дзеяч эміграцыі ў ЗША, першы прэм'ер-міністр БНР (1918).

6 чэрвеня — 30 гадоў таму, у 1982-м, памёр Язэп Малецкі, грамадскі дзеяч, публіцыст, медык, педагог, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

7 чэрвеня — 520 гадоў таму, у 1492-м, у Гродне памёр Казімір Ягелончык, вялікі князь літоўскі (1440–1492).

10 чэрвеня — 30 гадоў таму, у 1982-м, у Кінгстане (Антарыа, Канада) памёр Ян Садоўскі, навуковец, скарыназнавец, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Канадзе.

14 чэрвеня — 100(?) гадоў таму, у 1912-м (?), нарадзіўся Анатоль Сумны (сапр. Кунцэвіч; Беласточчына), паэт, святар, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

14 чэрвеня — 15 гадоў таму, у 1997-м, у Карэлічах прайшлі міжнародныя чытанні, прысвечаныя Ігнату Дамейку. У Мядзведцы заснаваны музей Дамейкі.

20 чэрвеня — 10 гадоў таму, у 2002-м, у Таронта памёр Міхаіл Мацкевіч (у манастве Мікалай), рэлігійны дзеяч, архіепіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

21 чэрвеня — 45 гадоў таму, у 1967-м, у Вільні памёр Фелікс Стацкевіч, грамадска-культурны дзеяч, выдавец, педагог, актывіст БСДГ і ТБШ.

24 чэрвеня — 200 гадоў таму, у 1812-м, у Беларусь увайшлі войскі Напалеона, пачалася вайна.

26 чэрвеня — 115 гадоў таму, у 1897-м, нарадзіўся Лявон Савёнак (в. Вялец, цяпер Глыбоцкі р-н), пісьменнік, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

27 чэрвеня — 315 гадоў таму, у 1697-м, каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем ВКЛ абраны Аўгуст II Моцны (1696–1733).

28 чэрвеня — 70 гадоў таму, у 1942-м, у Маскве ў гатэлі загінуў (паводле іншай версіі, быў забіты) Янка Купала, народны паэт Беларусі. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

30 чэрвеня — 80 гадоў таму, у 1932-м, у Рызе створана Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства (дзейнічала ў 1932–1933, старшыня Кастусь Езавітаў).

**Беларусы ў свеце**
№5(121), травень 2012

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не
супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і
вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27